ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 13 (2311) 1 красавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## 75-я ЎГОДКІ БНР У МІНСКУ









**Мінск. 21 сакавіка 1993 года. Ад плошчы Незалежнасці па праспекце імя Ф. Скарыны да сквера над Свіслаччу, дзе стаіць помнік Янку Купалу, ідуць у шэрагах маршам сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў. За імі — дэмакратычная грамадскасць сталіцы. Такім было ўрачыстае шэсце, якое завяршылася палітычным мітынгам у скверы Янкі Купалы. Гэта толькі адна са старонак свята ў гонар 75-й гадавіны БНР у Беларусі.**

**Пра іншыя падзеі чытайце на 3-й стар. ("Свята на нашай вуліцы").**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*НА ХВАЛІ АДРАДЖЭННЯ*

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ АЛЕСЯ ГАРУНА

Алесь Гарун — адзін з найвыдатнейшых нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. Па таленту ён не ўступаў тым, каго мы па праву называем заснавальнікамі сучаснае беларускае літаратуры — Купале, Коласу, Багдановічу, Гарэцкаму. Толькі лёс яго склаўся больш трагічна: сам ён на працягу цэлых дзесяці гадоў быў адарваны ад свайго асяроддзя, ад роднае зямлі. Займацца літаратурнай творчасцю мог толькі ў няволі, а пад канец жыцц[...] ва ўмовах разбуральнай вай[...] іншаземных нашэсцяў, пад уладай акупацыйных рэжымаў. Пры жыцці праследавала пісьменніка царскае самаўладства, а пасля яго смерці — бальшавіцкае. З канца 20-х гадоў беларускі народ, [...]у Алесь Гарун прысвяціў ус[...]аё жыццё, не меў права ўспамінаць яго добрым словам, чытаць ягоныя творы.

І гэта не выпадкова. Алесь Гарун быў змагаром супраць несправядлівасці, супраць прыгнёту як нацыянальнага, так і сацыяльнага, супраць хлусні, якім бы мэтам яна ні служыла. Таму ён і пасля сваёй смерці заставаўся небяспечны ўсім, хто баяўся праўды, як агню. Вось чаму амаль праз цэлых шэсць дзесяцігоддзяў яго імя ганебна выкрэслівалася з гісторыі нашае літаратуры, нашага народа.

Алесь Гарун — найбольш вядомы псеўданім пісьменніка, сапраўднае прозвішча якога — Аляксандр Прушынскі. Нарадзіўся ён у беднай сям'і выхадцаў з вёскі Падстарынь Стваловіцкай воласці Навагрудскага павета (сёння гэта Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) Уладзіміра Каятанавіча і Соф'і Іванаўны Прушынскіх. Жыхаром гэтай вёскі ўсё жыццё лічыўся не толькі бацька будучага пісьменніка, але і сам Алесь.

А калі і дзе ён нарадзіўся? У метрычным выпісе мінскага Кальварыйскага касцёла для судовых органаў называецца дата 27 лютага 1887 года. Але не сказана, які гэта стыль. Між тым каталіцкі касцёл ужо некалькі стагоддзяў карыстаецца новым стылем. Можна дапусціць, што ў выпісцы, прызначанай для афіцыйнай дзяржаўнай установы, прадстаўнікі касцёла падалі свае звесткі па старому стылю, які быў узаконены ў дарэвалюцыйнай Расіі. Гэта дае падставу лічыць, што Алесь Гарун нарадзіўся 11 сакавіка. А ў якасці месца нараджэння называецца не вуліца Багадзельная ў Мінску (сённяшняя Камсамольская), як гэта ўсюды пісалася да апошняга часу, а Новы Двор Мінска-кальварыйскага прыходу. Гэта, мабыць, быў невялікі фальварак па ракаўскай шашы.

**(Працяг на 6-й стар.).**

## ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ АРХІВЫ

# МЫ ДОЎГА ВЕРЫЛІ МІФУ

25 сакавіка 1918 года свет пачуў аб стварэнні вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах Магілёўшчыны, беларускіх частак Міншчыны, Гродзеншчыны, Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губерняў, заселеных беларусамі. Падзея адбылася не выпадковая.

Абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці прывяло да абвяшчэння ўласнай дзяржавы. БНР — гэта першая спроба рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі на практыцы. Беларускі адраджэнскі рух набыў к гэтаму часу тую сілу і размах, тых лідэраў, якія былі здольны ажыццявіць ідэю. Гэты вялікі, важнейшы ў нашай гісторыі акт адбыўся ў вельмі неспрыяльных умовах нямецкай акупацыі Беларусі, І сусветнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі. Нямецкія акупанты і потым бальшавікі не прызналі БНР. У іх былі свае інтарэсы на Беларусі. З адыходам немцаў, як вядома, у канцы 1918 года, прыходам бальшавікоў урад БНР вымушаны быў эмігрыраваць. Бальшавікі не збіраліся дазваляць утварыцца якой бы там ні было беларускай дзяржаве. Аднак з'яўленне Беларускай Народнай Рэспублікі вымусіла іх памяняць планы і зрабіць палітычны манеўр — пайсці на стварэнне "савецкай контрдзяржавы" — Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*РАЗЗБРОЙВАЕМСЯ*

## ПАДАЁМ ПРЫКЛАД

**Першы намеснік міністра абароны Беларусі — начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл рэспублікі генерал-маёр Мікалай Чуркін на прэс-канферэнцыі для журналістаў беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі заявіў, што рэспубліка паказвае прыклад няўхільнага выканання ўсіх падпісаных і ратыфікаваных ёю дагавораў, у тым ліку і ў ваеннай сферы, нягледзячы на цяжкасці, з якімі сёння даводзіцца сутыкацца пастаянна. У прыватнасці, за ўвесь час пасля падпісання Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, па якому мы абавязаліся знішчыць вялікую колькасць ваеннай тэхнікі, з боку пастаянных назіральнікаў за працэсам раззбраення шматлікіх інспекцыйных груп НАТА ў наш адрас не было зроблена ніводнай заўвагі.**

**Начальнік Галоўнага штаба заўважыў таксама, што і Беларусь пры гэтым хацела б бачыць падобныя адносіны да выканання дагавораў і пагадненняў з боку дзяржаў блізкага і далёкага замежжа.**

*У СЕНАЦЕ ЗША*

## ДАПАМОГА БЕЛАРУСІ

**У прэс-рэлізе пасольства Беларусі ў ЗША паведамляецца, што ў камітэце па справах узброеных сіл сената ЗША пад старшынствам сенатара С.Нана адбыліся слуханні адносна дапамогі ЗША былому Савецкаму Саюзу. На слуханнях, у прыватнасці, падкрэслівалася, што Беларусь, якая ратыфікавала Дагавор аб стратэгічных наступальных узбраеннях і далучылася да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, заслугоўвае гэтай дапамогі.**

**Было адзначана, што менавіта з Беларуссю, першай з 4-х былых рэспублік СССР, якія маюць ядзерную зброю на сваёй тэрыторыі, Злучанымі Штатамі заключаны пагадненні аб пастаўцы абсталявання для карыстання ў надзвычайных абставінах, звязаных з ядзернай зброяй, аб садзейнічанні ў стварэнні экспартнага кантролю і аб станаўленні лініі так званай "гарачай сувязі" Мінск — Вашынгтон.**

**Прадстаўнікі дзяржаўнага дэпартамента заявілі, што на працягу апошніх некалькіх тыдняў адміні[illegible]цыя прэзідэнта Клінтана пачала актыўную прапра[illegible] пакета дапамогі Беларусі.**

*НАВАСЕЛЛІ*



**У турэцкага пасольства — наваселле. Пасля цесных і шумных нумароў гасцініцы "Беларусь", дзе некалькі месяцаў туліліся яго супрацоўнікі, апартаменты на чацвёртым паверсе ў будынку былога абкома камсамола цалкам задавальняюць новых гаспадароў. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі пан Тансу Акандан упэўнены, што цяпер, калі з'явіліся ўмовы для нармальнай работы дыпламатычнага апарата, можна будзе рабіць значна больш для развіцця адносін паміж нашымі дзяржавамі.**

**НА ЗДЫМКУ: у рэдкія хвіліны адпачынку ангорская кошка Мелахат, прывезеная з Анкары, напамінае паслу пра далёкую радзіму.**

*ВІНШАВАННЕ ВЕТЭРАНУ*

## А.ЗАХАРАВАЙ — 90 ГАДОЎ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч накіраваў віншавальную тэлеграму Аляксандры Нічыпараўне Захаравай у сувязі з яе 90-годдзем. Кіраўнік парламента пажадаў заслужанаму ветэрану моцнага здароўя і дабрабыту.

Аляксандра Нічыпараўна — адзін з былых кіраўнікоў партызанскага руху на Гомельшчыне, камісар партызанскага палка, дзяржаўны дзеяч БССР. Выбіралася намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 2, 3 і 4 скліканняў (1947—1959 гады). Узнагароджана ордэнам Леніна, медалямі.

*"Я вам шчыра скажу: я, як і спадар Абрамчык і яго наступнік доктар Вінцук Жук-Грышкевіч, не вельмі пачуваюся называць сябе прэзідэнтам. Я ніколі не прэтэндаваў на такую пасаду, нават не думаў пра гэта, таму што не лічыў сябе палітыкам. Фактычна — я вайсковец. Я люблю войска беларускае. Але мяне выбралі, і я ўжо другую кадэнцыю адбываю. Мой папярэднік часта казаў, што я палітычна неадукаваны. І я прызнаваў гэта.*

*Магчыма, мне лёс дазволіць дачакацца такога часу, калі я змагу здаць свой мандат беларускаму ўраду на бацькаўшчыне. Але яшчэ не час. Мы чакаем, калі ў Беларусі Вярхоўная Рада будзе выбрана сапраўды дэмакратычным шляхам. Зараз мы мусім наглядаць за тым, як пойдуць падзеі далей.*

*У Амерыцы мне пашанцавала. Я здабыў вучобу, стаў доктарам медыцыны і меў кусочак хлеба. А ў палітыцы я аматар. Трэба было некаму быць, трэба было несці саму ідэю БНР. Я рэальна гляджу на рэчы. Мы былі беларускім урадам на выгнанні. Мы сімвалічна выконвалі гэтую функцыю: захавалі бел-чырвона-белы сцяг, "Пагоню", дзяржаўныя сімвалы БНР і рэпрэзентавалі Беларусь у Амерыцы.*

*Маю надзею, што калісьці я змагу выступіць у новай Вярхоўнай Радзе Беларусі, сказаць пару слоў, пажадаць усяго добрага свайму народу і сваёй радзіме".*

*(З інтэрв'ю Старшыні Рады БНР Язэпа САЖЫЧА "Народнай газеце").*

*ТВОРЧАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## СЯБРЫ ЗБІРАЮЦЦА Ў БЕЛАСТОКУ

**25 сакавіка ў Беластоку пачаўся "Фестываль сяброў". У ім прымаюць удзел Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы і Драмат[illegible] тэатр імя Венгеркі (г. Беласток). Абодва тэатр[illegible]дпісалі пагадненне аб творчым супрацоўніцтве. Вынікам яго сталі сумесныя пастаноўкі, абмен рэжысёрскімі калектывамі, удзел беларускіх і польскіх артыстаў у спектаклях сябруючых тэатраў. У дні фестывалю Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ладзіць у Беластоку выстаўку "Купала і час", прысвечаную 110-м угодкам вялікага п[illegible]ра Беларусі Янкі Купалы.**

*СІТУАЦЫЯ*

## "ЭКАЛАГІЧНАЯ БОМБА"

**Штогод на аднаго жыхара Беларусі прыпадае прыкладна 170 кілаграмаў небяспечных для здароўя адходаў розных вытворчасцей. Тым не менш у рэспубліцы няма ніводнага палігона для захавання такіх адходаў. Становішча з бытавымі адходамі не лепшае: дзеючыя звалкі не абсталяваны сучаснай тэхнікай, а таму забруджанні трапляюць у грунтавыя воды, што з'яўляюцца крыніцай водазабеспячэння насельніцтва. Спецыялісты-эколагі называюць падобныя звалкі "экалагічнымі бомбамі", якія могуць узарвацца ў любы момант.**

**Па звестках БелаПАН, у Беларускім навукова-даследчым цэнтры "Экалогія" распрацаваны Парадак дзяржаўнага кантролю за выкарыстаннем і выдаленнем прамысловых адходаў. У ім дакладна вызначаны абавязкі прамысловых прадпрыемстваў, эколагаў, Таможанага камітэта, Міністэрства рэсурсаў і шэрагу іншых арганізацый. Аднак ужо больш за паўгода вышэйназваныя ведамствы не могуць узгадніць свае меркаванні наконт гэтага дакумента. А сітуацыя ў рэспубліцы з адходамі ўсё больш ускладняецца, выходзячы з-пад кантролю.**

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*



**Дапамагчы людзям, якія жывуць на тэрыторыі, пацярпеўшай ад чарнобыльскай аварыі, — задача беларуска-галандскага інфармацыйнага цэнтра, адкрытага ў Гомелі. Спецыялісты цэнтра, якія прайшлі стажыроўку за мяжой, спрабуюць разабрацца ва ўзнікаючых складаных жыццёвых сітуацыях, развеяць нагнятаемыя часам чуткі, пазбавіць людзей ад стрэсу. Па тэлефоне давер'я можна звярнуцца сюды і ананімна. Вопытны ўрач-псіхолаг абавязкова прыйдзе на дапамогу.**

**НА ЗДЫМКУ:** консультацыю ў супрацоўнікаў цэнтра атрымлівае гамяльчанка Таццяна САКАЛОВА (злева).

*НОВАЕ АБМУНДЗІРАВАННЕ*



**На зацвярджэнне Савета Міністраў рэспублікі прадстаўлены ўзоры новага абмундзіравання для салдат і афіцэраў усіх родаў войск і пагранічнікаў Беларусі. Па заказу Міністэрства абароны распрацавана яно беларускімі мадэльерамі з тканін, выробленых прамысловасцю рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ:** новая форма пагранвойск.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ НАПЕРАДЗЕ

**— Мы яшчэ не перажылі самыя цяжкія часы ў эканоміцы, — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч у час наведання адной са старэйшых воінскіх часцей унутраных войск МУС, якая адзначала 75-годдзе з дня ўтварэння. — На жаль, мы пакуль што не ўмеем, і не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, на Украіне, у Прыбалтыцы, самастойна гаспадарыць, не пабудавалі сваю нацыянальную гаспадарку. Ёсць два тыпы падыходаў: удасканальваецца або вярнуцца да старой сітуацыі, а яна — тупіковая. Цэнтралізаваная гаспадарка не мае перспектывы. У той жа час не можа быць вельмі хуткага пераходу ад цэнтралізаванай да дэцэнтралізаванай эканомікі. Нас яшчэ чакаюць цяжкасці ў бліжэйшы час. Тым больш, што ёсць абмежаванні і па нафце, і па паліву. Таму галоўная задача цяпер — правесці як належыць пасяўныя работы. Савет Міністраў, на мой погляд, робіць для гэтага ўсё неабходнае. Калі мы гэты этап пасяхова пройдзем, то надзея ў нас будзе.**

*ГРОДЗЕНСКІ "МАТЫЛЁК"*

## ЗАПРАШЭННЕ НА ФЕСТЫВАЛЬ

**Запрашэнне на міжнародны фальклорны фестываль, які адбудзецца сёлета ў Аўстрыі, атрымаў самадзейны ансамбль татарскай песні "Кубялеум" ("Матылёк") з Гродна. Гэта будзе першае афіцыйнае выступленне за рубяжом калектыву, створанага два гады назад па ініцыятыве мясцовага мусульманскага культурна-асветнага таварыства "Кітаб" ("Кніга").**

# СВЯТА НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ,

## або 75-я ЎГОДКІ НА ФОНЕ ПАЛІТЫЧНАЙ НЕПАГАДЗІ

А ўсё ж такі нешта мяняецца ў нас саміх! Нібы вялікі камень нехта зняў з нашай душы, і мы адчулі нарэшце, як лёгка дыхаецца, хаця боль у грудзях яшчэ не аціх. Год назад, калі Вільня пад выглядам Дзён беларускай культуры адзначала 74-я ўгодкі БНР, у Мінску было ціха-ціха. Ніводнага бел-чырвона-белага сцяжка ні на адным з будынкаў у дзень 25-га сакавіка. Толькі напярэдадні нешматлікая грамада інтэлігенцыі сабралася ў Доме літаратара і ў наэлектрызаванай патрыятычнасцю атмасферы палка, але ўсё ж у вузкім коле, камерна ўшанавала Дзень абвяшчэння БНР і яе творцаў.

Мінуў год, а як усё змянілася. Для параўнання і роздуму, можа, дастаткова згадаць толькі пра ўрачысты сход у Белдзяржфілармоніі і прысутнасць на ім дзвюх прыкметных асоб дзяржавы — Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і Старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча, які спецыяльна прыляцеў на святкаванне 75-й гадавіны Акту 25 Сакавіка з Нью-Йорка. Праўда, яго сустракалі толькі прадстаўнікі БНФ і патрыятычна настроеная моладзь, але ніхто не чыніў і перашкоды. Абодва старшыні, захоўваючы дыпламатыю і тактоўнасць, выступілі з прамовамі. Абодвух зала вітала, стоячы і скандзіруючы: "Жыве Беларусь!". І гэта, мяркую, маленькі доказ нашай незалежнасці і свабоды.

Хаця прысутнасць галавы ўрада БНР на эміграцыі, як і сам Акт 25 Сакавіка, для некаторых (не ў зале філармоніі, а па-за яе сценамі) — костка ў горле. Не бяруся сцвярджаць, многа ў нас праціўнікаў БНР ці мала, ведаю адно цвёрда, што яны ёсць, таксама, як і ёсць людзі індыферэнтныя, якія не цікавяцца сваёй гісторыяй, якім што БНР, што БССР ці РБ — адзін чорт. Галоўнае, каб быць сытым. Такая сёння расстаноўка палітычных сіл, такія сёння беларусы на Беларусі. І калі прэзідэнт Літвы Бразаўскас меў падставы заявіць, што ў яго дзяржаве цяпер налічваецца не больш 3 працэнтаў камуністаў і яны не робяць палітычнай пагоды, то мы гэтага пра Беларусь сказаць не можам. Іншы народ, іншая гісторыя, іншая палітычная псіхалогія.

Вакол 75-х угодкаў БНР, якія сёлета






ўпершыню адкрыта і шырока адзначаліся ў Беларусі, мы бачым завіхрэнні дзвюх палітычных плыняў. Не паспеў утварыцца і абвясціць пра сябе грамадскі аргкамітэт па правядзенню свята, які запланаваў шэраг мерапрыемстваў масавага і культурна-навуковага характару, як тут жа ў друку з'яўляецца слыннае "пісьмо 43-х". Яго аўтары —акадэмікі, народныя дэпутаты, настаўнікі —заклікаюць выклясці і выкінуць з памяці сам факт утварэння БНР. 21 сакавіка на галоўнай вуліцы Мінска — праспекце імя Скарыны — адбыліся марш Беларускага згуртавання вайскоўцаў "За незалежнасць і дэмакратыю", маніфестацыя і ўрачыстае шэсце дэмакратычных сіл. А днём раней па тым жа праспекце прадэфілíравалі пад чырвонымі сцягамі пракамуністычныя сілы, галоўны лозунг якіх "Фашизм не пройдёт!" быў скіраваны не толькі супраць прыхільнікаў БНР, але і супраць усіх тых, хто сёння выступае за ўмацаванне суверэнітэту Беларусі, за дзяржаўны статус беларускай мовы.

Невялікае адрозненне: дэманстрацыя пад нацыянальнымі сцягамі была, прынамсі, утрая большай па колькасці ўдзельнікаў і намнога больш талерантнай да сваіх палітычных праціўнікаў, чым пракамуністычная.

У лістоўцы, якую знайшоў у сваёй паштовай скрынцы амаль што кожны мінчанін, заклікаючы прыйсці на мітынг, бюро Мінскага гаркома партыі камуністаў Беларусі, ківаючы ў бок аргкамітэта, пісала: "А некоторые готовят празднование 75-й годовщины БНР...". І як на самы вялікі смяротны грэх указвалася: "... они провозгласили главную идею БНР — разрыв государственных связей Белоруссии с Россией". Згаданае ж "пісьмо 43-х" ставіць у віну творцам БНР вядомую "тэлеграму кайзеру" і называе іх здраднікамі інтарэсаў народа.

З пазіцый сённяшняга дня — дык гэта недалужныя аргументы, якія ўжо ніводзін сур'ёзны вучоны не возьме на ўзбраенне. А разабрацца ў тым, чым была БНР у нашай гісторыі, мы мусім. Не абавязкова дзеля таго, каб святкаваць яе ўгодкі, але каб ведаць праўду.

З такой мэтай і сабраўся ў нашым акадэмічным Інстытуце гісторыі "круглы стол", а праз некалькі дзён як бы працягам той гаворкі была навуковая акадэмія ў Доме літаратара. Само па сабе гэта ўжо падзея: упершыню за [illegible] год у горадзе Мінску, дзе была абве[illegible]а БНР, вось так сабрацца, ні на ко[illegible]а баязліва не азіраючыся, і паспрабаваць спакойна, з найменшым усплескам эмоцый узважыць факты, прааналізаваць дакументы і прапанаваць нейкую канцэпцыю.

У гэтым плане мне вельмі і вельмі спакуслівай падалася думка кандыдата гістарычных навук Ал[illegible] Караля наконт беларускай ідэі і спро[illegible] ўвасобіць у той форме нашай дзяржа[illegible]ці, якая называецца БНР. Каб данесці сэнс пачутага і чаго-небудзь не перакруціць, хачу тут прывесці можа і занадта доўгую цытату з выступлення вучонага:

"Беларуская ідэя ўзнікла і сфарміравалася як ідэя нацыянальнага адраджэння. Гэта адлюстравала своеасаблівыя гістарычныя ўмовы і шлях станаўлення беларускай нацыі... Беларуская ідэя адлюстравала не толькі лёс беларускага народа, але і асноўныя рысы яго характару — талерантнасць, цярплівасць, добразычлівасць да іншых народаў. У гэтай ідэі адсутнічалі агрэсіўнасць, імкненне забяспечыць працвітанне за кошт іншых народаў і тым больш прэтэнзіі на вядучую месіянскую ролю. Разам з тым гістарычныя ўмовы, перш за ўсё геапалітычнае становішча Беларусі паміж Усходам і Захадам, барацьба краін Усходу і Захаду — Расія, Польшча і потым ужо Германія бачылі ў Беларусі зону сваіх інтарэсаў — вызначылі і такі накірунак у дзеяннях нашых дзеячаў: паспрабаваць абярнуць пры пэўных умовах геапалітычную сітуацыю на карысць беларускаму народу, на карысць той мэце, якую яны лічылі асноўнай, — стварэнне дзяржаўнасці. Адсюль і тыя палітычныя арыентацыі ў межах нацыянальнага руху — прапольская арыентацыя, прарасійская і прагерманская як спроба выкарыстаць геапалітычнае становішча.

З гэтага пункту погляду ідэалагічная і палітычная афарбоўкі беларускай ідэі як ідэі нацыянальнага адраджэння страчваюць





сваю вастрыню і нават сэнс. **Гэтак жа, як і абвінавачванні творцаў беларускай дзяржаўнасці і канкрэтна творцаў БНР у здрадзе...** (падкрэслена мною. — **В.К.**). З гэтага ж пункту погляду стварэнне БНР бачыцца фактам, падзеяй, з'явай, якая ўвасабляе першую спробу рэалізацыі беларускай ідэі на практыцы".

Камусьці гэта падасца кашчунствам, апраўданнем здрады. Мне ж уяўляецца такі падыход да ацэнкі творцаў БНР і факта яе абвяшчэння найбольш узважаным, які мае на ўвазе толькі нацыянальную гісторыю, нацыянальныя інтарэсы, а не рускія і не польскія. Чаму мы не можам быць самі па сабе, як кожны народ, што вышэй за ўсё ставіць волю, а абавязкова прыпрэжанымі да чыёй-небудзь імперскай каляскіцы?

Падчас "круглага стала" ў Інстытуце гісторыі нехта "з задніх радоў" выгукнуў: "Ці будзе ўрэшце ў нас дзень 25 сакавіка дзяржаўным святам?!" Старшынствуючы адразу ж патушыў небяспечную іскру, паспешліва заявіўшы, што "тут сабраліся па навуковай справе, і не мяшайцеся сюды з палітыкай". Але палітыка сама мяшаецца ў наша жыццё, нават спакойнае акадэмічнае. Раздаюцца патрабаванні, пішуцца звароты дыяметральна процілеглага зместу: адны рашуча патрабуюць забараніць нават на грамадскім узроўні адзначаць угодкі БНР; другія дамагаюцца ад Вярхоўнага Савета абвясціць дзень 25 сакавіка дзяржаўным святам.

Палітыка ўрываецца ў наша жыццё, як Зянон Пазьняк уварваўся на акадэмію ў Доме літаратара і ўзарваў яе навуковую плынь палітычнай экспрэсіяй. Яго выступленне не значылася ў праграме. Лідэр БНФ спецыяльна прыйшоў і выступіў з абвінавачваннямі ў адрас урада і яго прэм'ера, заявіўшы, што на сесіі Вярхоўнага Савета будзе патрабаваць яго адстаўкі. У З. Пазьняка былі для гэтага падставы. Іх даў сам В. Кебіч, выступіўшы днямі перад старшынямі выканкомаў гарадскіх і раённых Саветаў і выклаўшы свае меркаванні наконт неабходнасці ўтварэння новага эканамічнага саюза ў рамках СНД, а таксама аб магчымым далучэнні Беларусі да сістэмы калектыўнай бяспекі краін Садружнасці.

Не толькі лідэр парламенцкай апазіцыі, а і многія іншыя прадстаўнікі дэмакратычнага руху ўбачылі ў гэтым здраду нацыянальным інтарэсам, смяротную небяспеку нашай дзяржаўнасці. Гэткія ж трывожныя думкі гучалі і на мітынгу ля помніка Янку Купалу, якім закончыўся марш вайскоўцаў БЗВ і маніфестацыя 21 сакавіка, і на ўрачыстым сходзе ў філармоніі, прысвечаным 75-й гадавіне БНР, што адбыўся 25 сакавіка. Зянон Пазьняк, як заўсёды, з адкрытым забралам пайшоў у наступ на Вярхоўны Савет і не шкадаваў моцных выразаў, нягледзячы на прысутнасць тут жа С. Шушкевіча.

Вядома ж, думаецца пра ўсялякае, тым больш калі прарасійскія, пракамуністычныя сілы адкрыта здзекуюцца з нашага дзяржаўнага сцяга, патрабуюць прывілей для рускай мовы і аднаўлення былога Саюза. Можна па-рознаму ацэньваць памкненні, намеры, заявы і С. Шушкевіча, і В. Кебіча. Але можа, калі ўзяць пад увагу нашу жабрацкую сацыяльную сітуацыю і геапалітычнае становішча, такі крок — проста спосаб ратавацца, выжыць? Ды гэта ўжо тэма для іншай і больш грунтоўнай размовы.

А свята ўсё ж адбылося, нягледзячы на сакавіцкую непагадзь, як кажуць, і ў пагодзе, і ў народзе. Гэта было не афіцыйнае дзяржаўнае свята (на такім узроўні дзень 25 сакавіка пакуль не прызнаны), а свята душы кожнага беларуса, які даражыць сваёй гісторыяй і ідэаламі БНР.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: урачысты сход, прысвечаны 75-й гадавіне абвяшчэння БНР, на сцэне і ў зале філармоніі; прамаўляюць Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ і Старшыня Рады БНР Я. САЖЫЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ВОДГУК НА ПУБЛІКАЦЫЮ

# НАКОНТ АРХІВА БНР

З вялікай цікавасцю прачытаў у N 9 "Голасу Радзімы" ад 25 лютага 1993 года артыкул Язэпа Янушкевіча "Архіў Вацлава Ластоўскага". У ім ідзе размова пра архіў БНР, які ўдалося выявіць даследчыку ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Летувы. Пасля прачытання артыкула Язэпа Янушкевіча ў мяне ўзнікла адно пытанне: ці поўнасцю ў Вільні знаходзіцца архіў БНР, ці гэта толькі частка архіва? Праўда, паўстае яшчэ адно пытанне: як архіў БНР трапіў з Францыі ў Вільню?

Справа ў тым, што яшчэ ў 1974 годзе беларуская эміграцыйная газета "Беларускі голас", якая выходзіла ў Канадзе, надрукавала на сваіх старонках вялікі артыкул "Беларускія бібліятэкі і архівы на эміграцыі" Кастуся Мерляка з Нью-Йорка. Менавіта там я знайшоў даволі інтрыгуючыя і загадкавыя радкі пра архіў Рады БНР. Дазвольце іх даслоўна працытаваць: "Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, 6.III.1943, N 546, Прага. Іх міласці гр.інж.Міколе Абрамчыку і гр.Ларысе Гэнію. Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынясьці хутчэй кепскі, чым добры канец майму жыццю, я гэтым перадаю вам пане інжынер Становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі".

"...Само сабой разумеецца, што ўсе архівы Рады БНР і дакумэнты пераходзяць таксама на вас. Старшыня Рады БНР. В.Захарка..."

Згодна гэтага дакумэнта інж.Мікола Абрамчык пераняў архівы і дакумэнты Рады БНР і перавёз іх ува Францыю. Гэты дакумэнт называўся "тэстамэнтам", які даваў інж.Міколе Абрамчыку канстытуцыйныя правы называць сябе Старшынёю Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Архіў даўжэйшы час пераходзіўся ў памешканьні пры 65 ру дэ Гравілерс, Парыж, Францыя, а пазней, здаецца, быў перавезены на прыватнае памешканьне інж.Абрамчыка на прадмесьці Парыжа.

Ад 1943 году да сьмерці 29 траўня 1970 году інж.Абрамчык зьбіраў і папаўняў архіў Рады БНР. Людзі, якія давяралі, у тым ліку і я (мвеецца на ўвазе К.Мерляк. — С.Ч.) асабіста, перадавалі яму архіўныя матарыялы, асабліва з палітычнае дзейнасьці Рады БНР і грамадзкіх арганізацыяў. Не раз інж.Абрамчык выказваўся і паклікаўся публічна на дакумэнты, якія знаходзяцца ў архівах Рады БНР.

У апошнія пару гадоў перад сьмерцяй інж. Абрамчыка Ангельскі Сэктар Рады БНР намагаўся правесьці інвэнтарызацыю архіву ды забясьпечыць Архіў належнай аховай, на жаль, Старшыня Рады БНР ня ўважаў гэтую справу важнай або меў іншае прызначэньне, каб не дазволіць уліку архіўнага матарыялу.

Пасьля яго сьмерці была пакліканая камісія ў асобках: а.Льва Гарошкі, а.А.Смарчка і сп.А.Лашука, каб яны перанялі ад сп-ні Ніны Абрамчык, перапісалі Архіў Рады БНР і перадалі яго ў Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англія.

Сп-ня Абрамчык усякімі спосабамі адцягвала перадачу Архіву. Сябры камісіі былі змушаныя ехаць у Парыж некалькі разоў, аж нарэшце сп-ня Абрамчык заявіла, што Архіў Рады БНР яна нікому не перадасьць. Яшчэ зрабіў адну спробу сп.М.Нікан з Аўстраліі. У жніўні 1973 года паехаў у Парыж спэцыяльна, каб пераканаць сп-ню Абрамчык перадаць архівы, бо гэта агульная беларуская маёмасьць, а не персанальна інж.Абрамчыка, якую яна пераняла ў спадку. Яна сп.Нікана не прыняла ў хату. Ён толькі пагутарыў з сынам Альгердам на ганку.

І вось такім чынам Беларускі Дзяржаўны Архіў, нявядома ў якіх ён апыніцца руках.

Ведама ўсім, што ворагі беларускае незалежнасьці і дзяржаўнасьці заплоцяць усякую суму грошай, каб заўладаць гэтымі дарагімі беларускаму народу дакумэнтамі, каб пазбавіць беларусаў гістарычнае дакумэнтацыі Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі й змаганьня за ажыцьцяўленьне ідэалаў 25 Сакавіка.

Інж.Мікола Абрамчык, які пратэндаваў на Прэзыдэнта БНР, ня меў ніякіх якасьцяў дзяржаўнага мужа, гэта пацьвярджае яговая прымітыўная дзейнасьць на эміграцыі і сам факт не забесьпячэньня перадачы Дзяржаўнага Архіву ў рукі грамадства, які ён у свой час атрымаў ад свайго папярэдніка сьв.пам.Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі".

Да сказанага вышэй хочацца дадаць, што за архівам БНР да Ніны Абрамчык звярталіся і спадары Рагуля, Войтанка і іншыя. Але яна не падпускала і блізка іх. Так яна прымала і іншых, хто меў вока на архіў БНР. Дарэчы, недзе ў 60-х гадах амерыканскі дзеяч Далін хацеў архіў выкупіць для Калумбійскага універсітэта. А ў апошні час я ад некага чуў, што архіў БНР знаходзіцца ў адным з праваслаўных храмаў Францыі. І тут раптам з'явілася публікацыя Язэпа Янушкевіча, пасля якой і ўзніклі ў мяне вышэйназваныя пытанні.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

---

*ФІЛАСОФСКА-ПРАВАВАЯ КАНЦЭПЦЫЯ АДРАДЖЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ*

# БУДАВАЦЬ СВОЙ ДОМ

27 лютага мінская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады правяла канферэнцыю, на якой абмяркоўвалася філасофска-прававая канцэпцыя адраджэння незалежнай нашай рэспублікі. У ёй прынялі ўдзел народныя дэпутаты і вучоныя — філосафы, палітолагі, юрысты, а таксама прадстаўнікі грамадскасці, заклапочаныя будучыняй Беларусі. Выступаючы на канферэнцыі, яны выказаліся па асноватворных пытаннях сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і нацыянальна-культурнага развіцця рэспублікі.

Прааналізаваўшы законатворчую дзейнасць нашага Вярхоўнага Савета, яны выказалі свае думкі наконт таго, якім павінен быць прававы "калідор", каб ён забяспечваў ажыццяўленне карэнных змен у жыцці незалежнай краіны.

Занепакоенасць грамадскасці выклікана нездавальняючай, на яе думку, дзейнасцю вярхоўнай улады. Так, дэмакратычны ў сваёй аснове праект новай Канстытуцыі рэспублікі не знайшоў пакуль што падтрымкі ў большасці народных дэпутатаў, і працэс стварэння Канстытуцыі фактычна зайшоў у тупік.

Наогул у законатворчай дзейнасці парламента не знаходзяць адлюстравання многія значныя змены ў грамадскім жыцці Беларусі, такія, як, напрыклад, змяненне форм уласнасці, правядзенне шырокай прыватызацыі і раздзяржаўлення, унясенне змен у структуру мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання, умацаванне судовай улады, дэманапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі і многае іншае. Прыкра, што нават прынятыя раней добрыя законы застаюцца ўсё яшчэ толькі на паперы.

Ні Вярхоўны Савет, ні ўрад рэспублікі не толькі не прынялі дзейсных праграм сацыяльна-эканамічнага і грамадска-культурнага развіцця Беларусі, але і не вызначылі прыярытэтных задач фармавання новага дзяржаўнага ладу незалежнай рэспублікі. Будучыня дзяржавы застаецца "белай плямай" як для грамадзян рэспублікі, так і для суседзяў, і для сусветнай супольнасці.

Заклапочаны [illegible] ім станам рэчаў, удзельнікі канферэнцыі прынялі пастанову. У ёй яны прапануюць адказным работнікам органаў дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі, навуковым работнікам, палітыкам, шырокай грамадскасці рэспублікі на аснове сістэмнага аналізу сацыяльна-эканамічных, нацыянальна-культурных, палітычных і іншых грамадскіх праблем, якія паўсталі з абвяшчэннем нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, прыступіць да распрацоўкі філасофска-прававой канцэпцыі адраджэння незалежнай Беларусі. Яны выказалі трывогу ў сувязі з тым, што часта прымаюцца законы і іншыя нарматыўныя акты рэспублікі без дакладнага ўсведамлення таго, у якім напрамку развіваюцца грамадскія працэсы ў Беларусі, і гэта часам прыводзіць да прававога бязладдзя і прававога нігілізму.

Дзеля таго, каб яны ажыццявіліся і сталі набыткам беларускага народа, вырашана стварыць рабочую групу, якая распрацуе асноўныя напрамкі філасофска-прававой канцэпцыі адраджэння незалежнай Беларусі. У групу ўвайшлі сябры БСДГ і асобы, якія не ўваходзяць у партыю, але з'яўляюцца прыхільнікамі нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Старшынёй рабочай групы абраны віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, каардынатарам рабочай групы — народны дэпутат Яўген Цумараў. У склад групы ўключаны народныя дэпутаты, пісьменнікі, навукоўцы. Зазначана, што група можа пашырацца з ліку грамадзян, якія, падзяляючы выкладзеныя мэты і прынцыпы, гатовы ўнесці канструктыўныя прапановы па змесце і характару яе дзейнасці.

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

---

# МЫ ДОЎГА ВЕРЫЛІ МІФУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Канечне, сёння справа асабістая — святкаваць дзень стварэння БССР ці ўгодкі Акту 25-га сакавіка 1918 года, якім была абвешчана БНР, дзень Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ці Дзень памяці Слуцкага паўстання. Але я лічу, не толькі таму мы ў адным грамадстве адзначаем розныя святы, што стаім на супрацьлеглых ідэалагічных пазіцыях і не можам знайсці ў гэтым пытанні згоду, а таму, што сапраўдная гісторыя Бацькаўшчыны нам амаль што невядома.

Я маю на ўвазе не гісторыю партый і палітыкаў, а народны рух, стаўленне і паводзіны людзей у тыя гістарычныя часы. Ці была БНР тварэннем адарванай ад народа інтэлігенцыі, як нам убівалі ў галовы дагэтуль, ці, наадварот, беларуская інтэлігенцыя пайшла ўслед волі народа, калі збірала І Усебеларускі з'езд і ствараля органы народнай улады? На мой погляд, у той смутны, складаны час, калі Беларусь трапляла з адной вайны ў другую, у народзе выспела думка, што паратунку ад хаосу, зневажання, рабунку трэба шукаць у самастойнай незалежнай дзяржаве з уласным войскам і ўрадам. У наступныя гады станаўлення бальшавіцкага рэжыму гэтая думка ўзмацнела. Дакументальныя крыніцы сведчаць пра тое ж.

"...Мяне зацікавіла ідэя беларусізацыі краю і ўтварэння самастойнай Беларускай рэспублікі,.." — так апісаў пабуджальныя матывы сваіх учынкаў удзельнік Слуцкага паўстання, потым курсант Лодзінскай вайсковай школы, якая рыхтавала афіцэраў для Беларускай арміі, вязень Салаўкоў, сялянскі сын Алесь Бараноўскі. На допыце ў ДПУ ён не ўтаіў і іншыя прычыны: "Паведамленні аб тэрорах, які праводзілі бальшавікі, аб расстрэлах усіх, хто дасягнуў мабілізацыйнага ўзросту і не служыў у Чырвонай Арміі, аб закрыцці навучальных устаноў, аб зверствах над насельніцтвам, аб рабаваннях і гвалце прынялі каласальныя памеры... Насельніцтва не верыла ў магчымасць аднаўлення польскай улады, ды і не жадала яе, а савецкая ўлада... была страшная". Гэты малады чалавек, другія паўстанцы не выбіралі, з кім ім быць — з Польшчай ці з Масквой, яны змагаліся за незалежнасць. Патрыятычны настрой панаваў таксама сярод жыхароў Міншчыны. Так, старшыня Ваеннага рэвалюцыйнага камітэта Алесь Чарвякоў у кастрычніку 1920 года атрымаў зводку ад павятовых камісараў, якія дакладвалі, што "насельніцтва валасцей, даведаўшыся аб самавызначэнні Беларусі, не хоча прызнаваць ніякай улады, акрамя ўрада неіснуючай (для камісара яна, вядома, не існавала) "незалежнай Беларусі", і ставіцца вельмі варожа да арганізуемых валасных рэўкомаў, заяўляючы, што ўладу трэба выбіраць, а не назначаць з Масквы".

Людзі на месцах спрабавалі самі выбіраць органы ўлады. З такою мэтай сабралі сход сяляне Беларуцкай воласці 31 кастрычніка 1920 года. Як сведчыць пратакол, "сход адбыўся па патрабаванні грамадзян данай воласці, таму што ў гэты час у нас форменнае безуладдзе... нам пажадана, каб службовыя асобы былі ў нас намі ж абраныя, а не па назначэнню, як, напрыклад, у нас былі старшыня валрэўкома нехта Мікалай Хозікаў, невядома адкуль і хто такі, які неміласэрна нас крыўдзіў, не ведаючы нашых патрэб і... падабраў без нашай згоды і выбару членаў,.. якія толькі ўсяляк шкодзілі нам". Гэты сход стварыў свой орган мясцовай улады, куды ўвайшлі прадстаўнікі мясцовага сялянства. Людзі верылі, што свае выбраннікі паклапоцяцца аб іх. Чужынцаў, тых, хто прыехаў у абозе Чырвонай Арміі, вымушалі ратавацца ўцёкамі. "Зялёная армія прымушае валасныя рэўкомы пакідаць месцы службы і ўцякаць,.. — дакладваў Чарвякову камісар Барысаўскага павета, — ...настрой сялян варожы да савецкай улады... здараліся ўзброеныя сутыкненні, былі выпадкі арышту цэлых вёсак..."

Эканамічная, нацыянальная палітыка Масквы не выклікала даверу сярод мясцовага насельніцтва. Людзей хвалявалі Бацькаўшчыны, яны шукалі выйсце. На беспартыйнай канферэнцыі ў Валасевічах (Барысаўскі павет), што адбылася 31 кастрычніка 1920 года, сяляне разважалі: пры самавызначэнні трэба звярнуць увагу на тое, што Беларусь — краіна бедная. Значыць, ёй неабходна да каго-небудзь далучыцца, але ў такі час трэба азірацца, каб далучэнне не заняволіла нас... ва ўсякім выпадку не можа быць і размовы аб чым-небудзь іншым, акрамя самастойнасці Беларусі, ні аб якой сувязі з Польшчай і з савецкай уладай..." На канферэнцыі ў Халопенічах таксама прынялі рэзалюцыю, у якую былі (паводле справаздачы Барысаўскага рэўкома), "унесены словы контррэвалюцыйнага пажадання: "Жадаем мірным шляхам вызваліць Беларусь ад польскіх і савецкіх войскаў і даць ёй магчымасць самавызначыцца без чыёй бы там ні было дыктатуры". З самага пачатку беларуская ідэя не была агрэсіўнай. Дабром прасілі магутных суседзяў адысці з нашай зямлі. А тое, што яны дагаворацца між сабою, было відавочна. Простыя людзі спрабавалі ўплываць на палітычныя падзеі. "Мы, сяляне Беларуцкай воласці, ... прыйшлі да рашэння, — паведамляе пратакол з'езда ад 2 снежня 1920 года, — што Беларуская Рэспубліка павінна быць аб'яднанай у сваіх этнаграфічных межах, што на мірных перагаворы (у Рызе. — Н.С.) павінна быць паслана беларуская дэлегацыя для абароны інтарэсаў Беларускай Рэспублікі. Неабходна стварыць беларускую армію!.."

Мы доўга і шчыра верылі міфу, што нашы бацькі-дзяды маліліся толькі бальшавіцкім іконам, што ніколі ні яны, ні мы не адчувалі нацыянальных амбіцый, не імкнуліся адыгрываць самастойную гістарычную ролю ў еўрапейскім і сусветным жыцці. А між іншым, крыніцы сведчаць, што беларусы — не выключэнне, як і ўсе, яны імкнуліся да цывілізаванага нацыянальнага існавання, якое ўяўлялі ў форме незалежнай дзяржаўнасці. Дайсці да свабоды, не меўшы незалежнай нацыянальнай дзяржавы, немагчыма — гэта нашы продкі добра ўсвядомілі.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## АДНА З НЯЗГАСНЫХ ЗОРАК БЕЛАРУСІ

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Сямейная хроніка — ці не суцэльны мартыралог. Вядома, што старэйшы брат Кастуся Віктар памёр на трыццатым годзе жыцця ад сухотаў. Сам Кастусь хварэў нейкай нервовай хваробай накшталт падучай. На жаль, нічога ці амаль нічога мы не ведаем аб астатніх братах і сёстрах Кастуся, памерлых вельмі рана. Што да Віктара, то ён, як і Кастусь, быў таленавіты і дзейны. Археограф, страсны аматар гісторыі, ён некалькі гадоў праседзеў у Публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу над старадаўнімі рукапісамі і, паводле сведчання аднаго з найаўтарытэтнейшых тагачасных гісторыкаў — Кастамарава, меў свой погляд на гісторыю роднага краю, які не падзяляўся ў той час многімі польскімі патрыётамі. Апантаны служыцель музы гісторыі. І той жа самы Віктар Каліноўскі — уплывовы грамадскі і рэвалюцыйны дзеяч, канспіратар, які своечасова ўвёў Кастуся ў атмасферу ідэйных, навуковых і рэвалюцыйных шуканняў. Уплыў Віктара на Кастуся несумненны. Ён тлумачыць многае ў феномене ранняга ідэйнага выспявання Кастуся. Як высвятляецца з нядаўна знойдзеных беларускім даследчыкам М. Нікалаевым дакументаў, Віктар прыцягваў Кастуся нават непасрэдна да перапіскі гістарычных дакументаў у Публічнай бібліятэцы. Кастусь ведаў гісторыю сваёй радзімы, як спецыяліст-археограф, па першакрыніцах.

Пашчасціла яму і са школай. Свіслацкая гімназія (у часы Кастуся — пяцікласнае павятовае вучылішча) мела найбагацейшыя традыцыі, ганарылася многімі сваімі выпускнікамі, літаратарамі, грамадскімі дзеячамі. І што асабліва важна ў даным выпадку падкрэсліць — гімназія ва ўсе часы, пачынаючы з філаматцкіх і дзекабрысцкіх, была прычыненая да перадавых грамадскіх рухаў, уносіла свой уклад у барацьбу з самадзяржаўем, у станаўленне рэвалюцыйнага саюза народаў. Адным з важнейшых запаветаў папярэдняга вызваленчага руху, падхопленых і развітых Каліноўскім, быў інтэрнацыялісцкі лозунг "За нашу і вашу свабоду". Каліноўскаму, несумненна, дарагі быў паэтычны ўспамін Пушкіна пра сустрэчы з Міцкевічам, сумесныя мары двух вялікіх паэтаў аб тых часах, "когда народы, распри позабыв, в единую семью соединятся". Асабліва многа набыў Кастусь у гэтым сэнсе і ва ўсіх іншых адносінах у Пецярбургскім універсітэце, дзе вучыўся ў пару высокага грамадскага ўздыму (1856—1860). Галоўны універсітэт (ці адзін з галоўных) Расіі збіраў у сваіх аўдыторыях прадстаўнікоў усіх народаў, што насялялі велізарную краіну. Грузінскі пісьменнік-дэмакрат Ілья Чаўчавадзе — калега Каліноўскага па універсітэту — пісаў аб часе вучобы ў Пецярбургу: "...Гэтыя чатыры гады былі падмуркам, першакрыніцай жыцця, валаском, які лёс, нібы мост, перакінуў паміж святлом і цемрай. О вы, залатыя мае чатыры гады". Тое ж самае, можа не гэтак квяціста, мог сказаць аб сабе і больш стрыманы Каліноўскі. Крыніцы сведчаць пра асноватворны ўплыў на яго ідэй рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі — "Современника" і "Колокола". У той жа час мы не павінны недаацэньваць магутнага ўздзеяння на Кастуся ўласных беларускіх традыцый (Ф. Савіч) і перадавой польскай грамадскай думкі, якая таксама ўпарта шукала шляхоў да справядлівага грамадства без эксплуатацыі і прыгнёту. У Пецярбургу ўмацуецца думка Каліноўскага пра неабходнасць дружнага націску на царызм усіх народаў, пра тое, што варожасць і недавер паміж народамі — на руку царызму. Якраз напярэдадні паўстання Каліноўскі на поўны голас, каб чулі ўсе, выкажа сваё цвёрдае перакананне: "Рускі народ скаланаецца, бачачы нашу векавую крыўду. Ён імкнецца быць свабодным нашым братам, а не прыгнятальнікам, і адказнасць перад патомствам за наша жалезнае рабства рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм". (Потым, пад уплывам паражэння, узнікнуць і больш складаныя пачуцці, на момант — у "Лістах з-пад шыбеніцы" — яму здасца, што рускі народ змірыўся са сваім ярмом).

І ўсё ж у найбольш агульнай форме трэба сказаць, што Каліноўскага сфарміравала эпоха. Ён і яго эпоха цудоўна падышлі адзін да аднаго. Каліноўскі, як ніхто, чуйна ўлоўліваў час. Назва "Мужыцкая праўда", якую ён даў сваёй газеце, як найлепш адпавядае новаму этапу вызваленчага руху ў нашай краіне (дададзім у дужках, што гэтая назва своеасабліва адзавецца ў будучыні ў назвах такіх газет, як "Рабочая праўда", "Салдацкая праўда" і г.д.). Ва ўмовах Беларусі Каліноўскі найбольш поўна і паслядоўна ўвасобіў у сваёй дзейнасці перадавыя тэндэнцыі эпохі. Таму "эпоха Чарнышэўскага", фігуральна кажучы, стала на Беларусі "эпохай Каліноўскага".

Раздумваючы пра фенomen Каліноўскага, пра яго шлях да народа, пра складанасці тагачасных ідэйна-грамадскіх працэсаў на Беларусі, пра тое, што новае складвалася ў супрацьборстве са шляхецкай ідэалогіяй, што на змену шляхецкаму рамантызму прыходзіў рамантызм і рэалізм сялянскай дэмакратыі, У. Калеснік піша ў працы "Тварэнне легенды": "Шляхецкія фальваркі яго бацькі Сымона Каліноўскага — Мастаўляны і Якушоўка — з гнёздаў польскага патрыятызму пераўтварыліся ў месцы нараджэння рэвалюцыянераў, мужыцкіх заступнікаў Віктара і Кастуся. Апошні адкрыў у сабе, нечуваная рэч, беларускі патрыятызм! Агульнарасійскі рэвалюцыйна-дэмакратычны дух моцна павінен быў асвяжыць атмасферу, калі і сярод маладога пакалення шляхты ўзніклі такія парадоксы патрыятычнага пачуцця, якіх ніколі не прыдумала б замілаваная ў парадоксах рамантычная фантазія". Сказана слушна. Разам з тым гісторыкі выразна бачаць, што шлях Каліноўскага цалкам заканамерны і лёгка ўпісваецца ў кантэкст глыбінных гістарычных працэсаў таго часу.

Дзейнасць і асобу Каліноўскага нельга зразумець па-за праблемай фарміравання беларускай нацыі. У XIX стагоддзі на Беларусі, як і ў іншых кутках Еўропы, пад уплывам магутных, непераадольных сацыяльна-эканамічных фактараў ажывіўся нацыянальна-культурны рух. Узнікаюць і множацца спробы стварыць уласную літаратуру, тэатр і г.д. Ля калыскі беларускай літаратуры новага часу стаялі не толькі выхадцы з народа (П. Багрым, В. Каратынскі, верагодны аўтар "Тараса на Парнасе" К. Вераніцын), але па першым часе ў яшчэ большай ступені выхадцы са шляхты (Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, Ф. Багушэвіч, А. Абуховіч і інш.). Адбываецца як бы вяртанне лепшых прадстаўнікоў шляхты да свайго народа. Працэс гэты добра прасочваецца як у агульнай форме, так і па асобных біяграфіях. Напрыклад, А. Рыпінскі, які напачатку злучаў любоў да Беларусі са страсным польскім патрыятызмам, пад канец жыцця вымавіць знамянальныя словы: "Можа дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы як народжаныя на Русі..." (Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 176). Сваё адметнае месца ў гэтым працэсе заняў і Кастусь. Як мы ўжо гаварылі, Каліноўскі з'явіўся заснавальнікам беларускай нацыянальнай прэсы, унёс вялікі ўклад у станаўленне беларускай публіцыстыкі і грамадзянскай паэзіі, у развіццё беларускай літаратурнай мовы. Ён віртуозна карыстаўся ўсімі выяўленчымі сродкамі народных гаворак. Ягоная мова эмацыянальная і шматфарбная, мастацкая палітра разнастайная і багатая. "Яська-гаспадар" — не толькі псеўданім, але і па-майстэрску вылеплены Каліноўскім літаратурны вобраз перадавога селяніна свайго часу, носьбіта мужыцкай праўды, вострага суразмоўніка, які за словам у кішэню не лез і выдатна разбіраўся ў многіх тонкасцях сучаснага жыцця. З нумара ў нумар перад чытачамі-слухачамі газеты Каліноўскага не толькі раскрываліся новыя разрэзы і тайны грамадскага арганізма, але і дадаваліся свежыя грані да вобліка Яські-гаспадара. Без імя Каліноўскага немагчыма ўявіць гісторыю беларускай літаратуры і журналістыкі, як і гісторыю нацыянальнай філасофскай і грамадска-палітычнай думкі. Такім чынам, палымяны рэвалюцыянер Каліноўскі стаў у той жа час буйнейшым культурным дзеячам Беларусі.

Пасмяротны шлях Каліноўскага да свайго народа быў нялёгкі. Беларускі народ страціў у 63-м годзе цвет сваёй інтэлігенцыі. Маладу, яшчэ зусім малады цвет, які толькі-толькі пачаў распускацца, быў пабіты марозам рэпрэсій. Культурныя традыцыі, калі не абарваліся канчаткова, то, здавалася, вось-вось гатовыя былі абарвацца. Нават нястомны, апантаны Адам Кіркор у сваіх кракаўскіх лекцыях 1874 года з глыбокай гаркатою гатовы быў прызнаць, што беларускі нацыянальна-культурны рух, відаць, не знойдзе моцы для новага ўздыму. Але ўжо ў 1867 годзе ў далёкім Парыжы на мове арыгінала публікуюцца "Лісты з-пад шыбеніцы" Каліноўскага. У 1885 годзе ў Сібіры ў сваіх успамінах пісаў пра Каліноўскага як пра дзеяча беларускай культуры віцябчанін Максімільян Маркс. Неўзабаве яго прыгадаў В. Савіч-Заблоцкі ў пісьме П. Драгаманаву. Зрэдку ў аспекце нацыянальна-культурных працэсаў пра Кастуся ўспаміналася ў замежнай прэсе. Ішлі гады, і ў Бясядах на Лагойшчыне малады Янка Купала — тады яшчэ проста Ясь Луцэвіч — сустрэўся з паплечнікам Каліноўскага Зыгмунтам Чаховічам, што вярнуўся да роднага парога з далёкай халоднай Сібіры. На пачатку новага стагоддзя, калі беларускі нацыянальны рух пад уплывам першай расійскай рэвалюцыі як бы атрымаў новае дыханне, Максім Багдановіч успомніў Каліноўскага ў нарысе "Беларускае адраджэнне". Духоўная эстафета ўсё ж была прынята. А хутка — і гэта з'явілася паказчыкам новага ўзроўню нацыянальна-культурнага руху беларусаў — адбыўся сапраўдны выбух агульнай цікавасці да роданачальніка беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі.

Над даследаваннем жыццёвага шляху і творчай спадчыны Каліноўскага працавалі і працуюць літаратуразнаўцы, філосафы, мовазнаўцы, гісторыкі рэвалюцыйнага руху, журналістыкі, педагогікі і г.д. І ўсе знаходзяць для себя ў гэтай спадчыне надзвычай багаты матэрыял. Назавём хаця б такія імёны, што адносяцца да розных часоў, як В. Перцаў, І. Лушчыцкі, А. Смірноў, А. Майхровіч, В. Шалькевіч, заходнебеларускі інтэрпрэта[illegible] духоўнай спадчыны свайг[illegible]рода А. Станкевіч, даследчыкі з Польшчы В. Кардовіч, К. Канкалеўскі, А. Баршчэўскі. Кожнае пакаленне як бы нанава адкрывае для себя Каліноўскага, знаходзіць у ім блізкія рысы і гра[illegible]а яго вобраза, як да кры[illegible] высокага натхнення, звяртаюцца паэты і пісьменнікі, мастакі і дзеячы іншых мастацтваў. У скарбніцу беларускай культуры ўвайшлі прысвечаныя Каліноўскаму вершы, раманы, п'есы, паэмы Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча і іншых пісьменнікаў, незлічоныя творы жывапісцаў, скульптараў, графікаў, майстроў тэатра, музыкі і кіно.

І сёння назіраецца новы грамадскі паварот да спадчыны Каліноўскага. Мы бачым у ёй адзін з самых галоўных сваіх ідэйных вытокаў. Нашаму рэвалюцыйнаму часу сугучна глыбокая ідэйнасць і духоўнасць вялікага Кастуся, яго цвярозая сумленнасць і гатоўнасць змагацца да канца за народныя ідэалы. Публіцыстыку Каліноўскага сёння літаральна разабралі па цытатах. "Не народ для ўрада, а ўрад для народа", "Чалавек свабодны — калі мае кусок сваёй зямлі...", — такімі выслоўямі або іхнімі пераасэнсаваннямі поўніцца цяпер прэса. Знаёмыя інтанацыі прарываюцца ў філіпіках сённяшніх публіцыстаў. З'яўляюцца і новыя ноткі стомленасці ад рэвалюцыйнай фразы, ад крутых метадаў барацьбы. І гэта таксама (што зробіш) прыкмета нашага супярэчлівага часу.

Аднак дзеячаў мінулага ў любым выпадку трэба ацэньваць гістарычна, у кантэксце эпохі, якая іх спарадзіла. Што б ні здарылася, Каліноўскі — адна з вяршынь нашай гісторыі, нязгасная зорка, якая вечна будзе гаварыць з намі пра вернасць, мужнасць і высакароднасць. А гэта якасці, неабходныя нашаму часу, як і кожнаму іншаму.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 11,12.**

## ДЛЯ ВАС, СУАЙЧЫННІКІ!

Пры абласной арганізацыі таварыства "Веды" ў Брэсце створаны культурна-асветніцкі цэнтр "Беларуская думка". Асноўныя задачы, якія ставіць ён, — шырокая прапаганда сучаснай беларускай мовы, культуры і гісторыі Рэспублікі Беларусь, яе традыцый і народных промыслаў. Цэнтр мае намер выступаць з ініцыятывай правядзення агульнаабласных мерапрыемстваў і выконваць ролю арганізатара творчых саюзаў, культурна-асветніцкіх таварыстваў і аб'яднанняў у гэтай справе.

У адным з пунктаў яго палажэння, у прыватнасці, запісана, што цэнтр праводзіць сустрэчы з пісьменнікамі, кампазітарамі, артыстамі, іншымі таленавітымі і вядомымі землякамі, а таксама з замежнымі суайчыннікамі, здымае і дэманструе тэле- і відэафільмы аб родным краі, яго людзях, суайчынніках з блізкага і далёкага замежжа. Словам, сваю работу цэнтр мае намер будаваць разам з абласным аддзяленнем таварыства "Радзіма".

У сувязі з гэтым кіраўніцтва цэнтра звяртаецца да нашых суайчыннікаў за мяжой: "Калі вас, нашы шаноўныя землякі, цікавяць падзеі, што адбываюцца ў Беларусі, жыццё землякоў, сваякоў, таго рэгіёна, адкуль вы родам і адкуль шмат гадоў назад выехалі за мяжу, звяртайцеся, калі ласка, у цэнтр або ў абласное аддзяленне таварыства "Радзіма", і заказаны вамі фільм будзе высланы ва ўказаны вамі тэрмін па пошце.

Магчыма, вы збіраецеся сёлета наведаць мілыя сэрцу мясціны, сваіх родных, у такім выпадку таксама звяртайцеся да нас. Папярэдне вы можаце выслаць заяўку на здымкі відэафільма аб вашым знаходжанні ў родным краі, незабыўных сустрэчах з дарагімі для вас людзьмі. Перад ад'ездам дамоў вы зможаце паглядзець відэафільм у відэасалоне цэнтра і вярнуцца з роднай Бацькаўшчыны са стужкай у каляровым адлюстраванні. У любы час, уключыўшы тэлевізар, вы зможаце зноў, цяпер ужо без матэрыяльных страт на дарогу, шматлікіх клопатаў, звязаных з імі, вярнуцца з дапамогай экрана на бацькоўскі парог, прайсціся сцяжынкамі маленства, сустрэцца з землякамі.

Памятайце: зняты творчай групай цэнтра відэафільм — гэта памяць на ўсё жыццё!

Заяўкі на здымкі відэафільмаў вы можаце накіроўваць на адрасы:

**224617, Рэспубліка Беларусь, г. Брэст, вуліца Савецкая, 61, культурна-асветніцкі цэнтр "Беларуская думка".**

Або:

**224030, Рэспубліка Беларусь, г. Брэст, вуліца Набярэжная, 2, кв. 30, абласное аддзяленне таварыства "Радзіма".**

Моцнага вам здароўя, радасці ў жыцці, асабістага шчасця. А заадно прыміце нашы шчырыя віншаванні з Вялікаднем — вялікім святам, якое, верым, верне вас у думках у мілы сэрцу край, дзе вы зрабілі першы крок, вымавілі першае слова, перажылі першае пачуццё любові да роднай зямлі, а, магчыма, і каханне да вельмі дарагога вам чалавека.

Да сустрэчы ў палескім краі, нашы суайчыннікі!

**Мікола ПАНАСЮК,**
**уласны карэспандэнт часопіса "Беларуская думка" па Брэсцкай вобласці.**

**Мікола ПАЎЛОЎСКІ,**
**адказны сакратар абласнога аддзялення таварыства "Радзіма".**

## ПАПРАЎКА

Робячы аповяд пра лёс заслужанага артыста Беларусі Б. Уладамірскага ("Тэатр — і анічога, акрамя тэатра" ў N 11 за 18 сакавіка г.г.), я недаравальна памыліўся. Атрымліваецца так, быццам педагог Б. Уладамірскага па тэатральнаму вучылішчу заслужаны артыст Беларусі М. Зораў у маі 1941 г. разам з Першым БДТ паехаў з Мінска ў Адэсу на летнія гастролі. Было не так. Па справах вучылішча М. Зораў заставаўся ў Мінску, дзе і загінуў у ліпені 1942 г., закатаваны ў мінскім гета.

Прашу выбачэння ў чытачоў "Голасу Радзімы" і блізкіх М. Зорава.

**Барыс БУР'ЯН.**

*НА ХВАЛІ АДРАДЖЭННЯ*

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ АЛЕСЯ ГАРУНА



**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Малы Алесь на працягу трох гадоў вучыўся ў Мінску ў царкоўнапрыходскай школе, а потым — таксама тры гады — на дрэваапрацоўчым аддзяленні рамесніцкага вучылішча. Такой адукацыі было дастаткова, каб пачаць самастойнае працоўнае жыццё. Гарун стаў кваліфікаваным сталяром і, пачынаючы з 1902 года, працаваў у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

Юнацтва і сталасць Алеся Гаруна прыпалі на гады, якія пакінулі ў гісторыі нашага народа небывала яркі след: рэвалюцыя 1905 года, першая сусветная вайна, нямецкая акупацыя, Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, грамадзянская вайна, іншаземныя інтэрвенцыі і чаргаванне розных акупантаў на нашай зямлі. На фоне ўсяго гэтага паскоранымі тэмпамі адбывалася беларускае нацыянальнае адраджэнне, змаганне за права народам звацца, разгортванне вызваленчага руху, настойлівыя спробы арганізаваных грамадскіх, палітычных сіл дамагчыся ўтварэння беларускай дзяржаўнасці. У тых умовах мастацкая літаратура ўздзейнічала на многія найважнейшыя працэсы, будзіла, вучыла, сеяла на ўсёй зямлі разумнае, добрае, вечнае.

Алесь Гарун з маладых гадоў ступіў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Яшчэ ў 1904 годзе ён стаў членам партыі эсэраў, разгортваў шырокую прапагандысцкую дзейнасць. Гэта мела для яго катастрафальныя вынікі. 4 сакавіка 1907 года яго арыштавалі ў падпольнай друкарні ў Мінску.

Судзілі Алеся Гаруна і ягонага кампаньёна Абрама Левітаса двойчы. 10 ліпеня 1908 года суд прыняў канчатковае рашэнне адправіць абодвух падсудных на пасяленне ў Сібір.

Вось што пра сібірскі перыяд жыцця Алеся Гаруна піша ў сваёй "Гісторыі беларускае літаратуры" Максім Гарэцкі: "Ссылку адбываў Гарун у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні. Спачатку жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены — 71 вярста ад Кірэнска і 971 вярста ад Іркуцка; потым у вёсцы Крывая Лука, 18 вёрст ад Макараўскага. Займаўся там сталярскімі і цяслярскімі работамі... Ад 1914 г. Гарун быў на Лене вадалівам, даплываў аж да Якуцка... Ад 1915 г. паэт падаўся на прыіск ў Бадайбо, дзе і дачакаўся рэвалюцыі".

У Сібіры Алесь Гарун пазнаёміўся і пасябраваў з Язэпам Лёсікам, блізкім сваяком Якуба Коласа, будучым выдатным грамадскім і навуковым дзеячам, рэдактарам газет "Вольная Беларусь", потым "Беларусь", маршалкам (старшынёй) Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, а ў Савецкай Беларусі — выдатным вучоным, праўдзейным членам Беларускай акадэміі навук. Як і многіх іншых беларускіх патрыётаў, яго знішчыла сталінская рэпрэсіўная машына.

Алеся Гаруна вызваліла з няволі Лютаўская рэвалюцыя. У верасні 1917 года ён вярнуўся ў Мінск, дзе адразу ж уключыўся ў ідэйна-палітычную барацьбу. Тут жа шырока разгарнулася ягоная літаратурная і публіцыстычная творчасць.

У кастрычніку 1917 года на III з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) — галоўнай палітычнай сілы нашага народа — Алесь Гарун выбіраецца адным з дванаццаці членаў Цэнтральнага камітэта партыі. Разам з ім былі выбраны такія дзеячы, як Змітро Жылуновіч, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Дыла, Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі.

У снежні 1917 года Алесь Гарун стаў адным з актыўных удзельнікаў Усебеларускага кангрэса, які прадвызначыў лёс нашага народа на ўсю далейшую перспектыву. Праўда, могуць сказаць: бальшавікі ж разагналі кангрэс, і ён не абвясціў аб стварэнні дзяржавы, яе органаў улады, не паспеў прыняць ніякіх дэкрэтаў, што ўвайшлі б у гісторыю як нейкія пераломныя падзеі ў лёсе народа.

Між тым якраз пераломнай падзеяй у жыцці беларускага народа той знамянальны кангрэс з'явіўся таму, што ўпершыню ў гісторыі сабраліся з усіх канцоў Беларусі, з розных куткоў Расіі і франтоў сусветнай вайны паўнамоцныя прадстаўнікі краіны. Тут упершыню беларусы паказалі, што яны адчулі сябе народам, які сам узяўся вырашаць свае справы.

Пра ўдзел Алеся Гаруна ў кангрэсе пісала газета "Белорусская Рада". Пад датай 7 снежня (па старому стылю) яна паведамляла: "Вялікі гістарычны дзень. Сёння вырашаецца лёс праз стагоддзі прыгнечанай Беларусі..." І далей: "Гарачымі авацыямі сустрэлі... нашу гордасць Беларусі — былога ссыльнага за яе свабоду Алеся Гаруна".

Пасля таго, як нарком унутраных спраў Заходняй вобласці (так пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі афіцыйна называлася Беларусь) латыш Рэзаў, узяўшы слова, абазваў нацыянальны сцяг анучай і патрабаваў яго зняць, прамоўцы горача выказвалі сваё абурэнне. Сярод іх — і Алесь Гарун. Вось што пра яго выступленне паведамляецца ў газеце "Белорусская Рада": "Прачулую і поўную любві да свайго народа і да ўсіх астатніх народаў прамову сказаў паэт Алесь Гарун. Колькі велічы ў яго прамове. Колькі, відаць, гора выцерпеў гэты сібірскі ссыльны". У гэтым рэпартажы перадаецца і кароткі змест яго выступлення: "Мы былі добрымі суседзямі і слухалі ўсіх. Мы, узяўшы ўладу, усім павінны даць свабоду. Мы павінны быць братамі. Не адно мора крыві ўжо вылілася. Мы павінны тушыць пажар. Адно мяне яшчэ здзіўляе. Хіба латыш, зняважыўшы нас, забыў пра сваю радзіму Латвію, або не чытаў зусім газет, дзе напісана, што на 5 студзеня склікаецца Латышскі Устаноўчы Сход".

Нехта з прысутных, паказаўшы на Алеся Гаруна, усклікнуў: "Вось за кім мы павінны ісці!"

Усебеларускі кангрэс паспеў стварыць Выканаўчы камітэт, у склад якога ўвайшлі: Язэп Варонка (старшыня і замежныя справы), Сымон Рак-Міхайлоўскі (вайсковыя справы), Янка Серада (унутраныя справы), Макар Касцевіч (асвета), Аляксандр Прушынскі, гэта значыць, Алесь Гарун (праца), Палута Бадунова (сацыяльнае забеспячэнне), Тамаш Грыб (сельская гаспадарка), Лявон Заяц (кіраўнік спраў), а таксама Лагун, Дыла і Бурбіс (без партфеляў).Тое, чаго не паспеў зрабіць сам кангрэс, здзейсніў Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда. 9 сакавіка (новы стыль) 1918 года была абнародавана Другая Устаўная грамата, у якой абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка з сапраўды дэмакрытычнай праграмай (свабода слова, друку, забастовак, веравызнання, 8-гадзінны рабочы дзень, раўнапраўе ўсіх моў, перадача зямлі без выкупу сялянам). Аднак акупацыйныя ўлады, якія чаргаваліся на беларускай зямлі, не далі магчымасці яе ажыццявіць.

І нарэшце 25 сакавіка 1918 года была прынята Трэцяя Устаўная грамата, у якой абвяшчалася дзяржаўная незалежнасць Беларускае Народнае Рэспублікі. Каб не было БНР, не было б пазней і БССР. А каб не было БССР, то не было б і сённяшняй Рэспублікі Беларусь. А дарогу для БНР праклаў Усебеларускі кангрэс у снежні 1917 года.

На заключным этапе грамадзянскай вайны найбольш выдатныя беларускія дзеячы, у тым ліку і Алесь Гарун, звязвалі свае надзеі з сацыялізмам, хаця па прынцыповых пытаннях іх праграма кардынальна адрознівалася ад праграмы бальшавікоў. Пасля распаду БСГ Алесь Гарун увайшоў у склад беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі.

На свабодзе Алесь Гарун ніколі не спыняў надзвычай актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці.

У 1918 годзе, у час нямецкай акупацыі, ён рэдагаваў газету "Беларускі шлях". У жніўні 1919 года ўзначаліў Часовы беларускі нацыянальны камітэт, які ўключаў радных Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, прадстаўнікоў Культурна-асветнага таварыства, Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, Першага таварыства драмы і камедыі, Вучыцельскага беларускага хаўрусу і інш. Гэта была спроба згуртавання і кансалідацыі ўсіх патрыятычна настроеных нацыянальных сіл, каб дамагчыся іх эфектыўнай дзейнасці ва ўмовах чарговых акупацыйных рэжымаў.

Восенню 1919 года Алесь Гарун стаў членам беларускай вайсковай камісіі, якая павінна была пры дапамозе польскіх улад арганізаваць нацыянальную армію. Аднак такое войска, нягледзячы на шматмесячную дзейнасць і на шматлікія спрыяльныя абставіны, так і не было створана.

У перыяд грамадзянскай вайны Алесь Гарун часта друкаваў мастацкія і публіцыстычныя творы ў розных перыядычных выданнях і калектыўных зборніках. Кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ў найцяжэйшых умовах акупацыйных рэжымаў рабілі ўсё для абароны інтарэсаў беларускага народа, для развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры. Беларускія патрыёты цаною незвычайных намаганняў знаходзілі магчымасць ва ўмовах ваеннага ліхалецця выдаваць беларускую перыёдыку ("Вольная Беларусь", "Беларускі шлях", "Звон", "Беларусь", "Рунь" і інш.), друкаваць не толькі бягучую інфармацыю, але і мастацкія творы, публіцыстычныя артыкулы і нават навуковыя трактаты. У гэтыя выданні прысылалі свае творы нават і пісьменнікі, якія жылі на тэрыторыі, дзе панавала савецкая ўлада. Так, напрыклад, у "Вольнай Беларусі" друкавалася паэма Якуба Коласа "Сымон-музыка" ў той час, калі аўтар жыў на Куршчыне. На акупіраванай тэрыторыі ўпершыню пабачылі свет камедыі В.Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта" і "Залёты", шматлікія творы Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна (у тым ліку і ягоны зборнік "Матчын дар"), Змітрака Бядулі і многіх іншых. З'яўляліся ў друку навуковыя працы і артыкулы Яўхіма Карскага, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Рамуальда Зямкевіча і іншых.

Якія б перашкоды ні рабіліся, беларускае мастацкае слова жыло, змагалася за права беларускага люду народам звацца. І ў першых шэрагах барацьбітоў за волю, долю і народ ішоў Алесь Гарун з палымяным паэтычным радком, страсным публіцыстычным словам.

З Сібіры Алесь Гарун вярнуўся хворы на сухоты. Хвароба ўсё больш і больш абяссільвала песняра. У ліпені 1920 года яго на насілках унеслі ў санітарны цягнік, які завёз яго ў Кракаў. У гэтым жа месяцы ён і памёр, пражыўшы ўсяго толькі 33 гады. Пахаваны на вайсковых Ракавіцкіх могілках у Кракаве.

Толькі амаль праз 70 гадоў пасля яго смерці, 24 верасня 1988 года, на ягонай магіле быў пастаўлены помнік стараннямі актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. На гэтай урачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі беларускай грамадскасці не толькі з Польшчы і Беларусі, але таксама і з далёкага замежжа. А наш суродзіч з Аўстраліі — здаецца, яго звалі Міхась Лужынскі — запісаў на магнітафонную стужку выступленні ўдзельнікаў. Вельмі добра было б, калі б гэтая стужка трапіла ў які-небудзь з беларускіх рэспубліканскіх культурных цэнтраў.

***

Першы друкаваны верш Алеся Гаруна "Маці-Беларусі" пабачыў свет у 1907 годзе ў 23-м нумары газеты "Наша ніва". У 1908 годзе з'явілася два вершы: "Януку Купале" і "Начныя думкі" — лірычны ўсхваляваны ўспамін аб родных мясцінах, ад якіх аўтар быў адарваны, знаходзячыся ў астрозе. Гэтыя вершы сведчаць аб тым, што малады паэт у няволі не паў духам, не зламаўся маральна. Тут ён падтрымліваў цесную сувязь са знешнім светам, жыў яго клопатамі, сам займаўся літаратурнай творчасцю і знаходзіў магчымасць перадаваць вершы на волю.

Больш стала літаратурнай творчасцю заняўся ён у Сібіры, адкуль пасылаў на радзіму вершы, апавяданні і, вядома, лісты. Паэтычныя творы яго пад псеўданімамі Алесь Гарун і А.Сумны перад першай сусветнай вайною і ў пачатку яе друкаваліся ў "Нашай ніве", калектыўных зборніках, календарах, а таксама ў газеце "Беларус", што выдавалася лацінскім алфавітам.

У 1914 годзе Алесь Гарун падрыхтаваў паэтычны зборнік "Матчын дар". Вайна, аднак, перашкодзіла публікацыі кнігі, якая пабачыла свет толькі ў 1918 годзе, пасля таго, як аўтар вярнуўся з Сібіры. Потым ужо зборнік перавыдаваўся ў 1929, 1988 (факсімільнае выданне першай публікацыі) і ў 1991 гадах у зборы ягоных твораў "Сэрцам пачуты звон".

Пакутуючы ў Сібіры, паэт падтрымліваў няспынны кантакт з родным краем. Ні суд, ні турэмныя ці адміністрацыйныя ўлады яго думку і годнасць чалавечую скаваць не маглі. І былі бяссільныя вытравіць з душы пісьменніка любоў да свабоды, да роднага краю, матчынай мовы, веру ў свой народ, у яго лепшую будучыню.

Ёсць у Алеся Гаруна алегарычныя творы з глыбокім філасофскім роздумам над кардынальнымі пытаннямі чалавечага быцця і грамадскіх працэсаў. Лірычнаму герою верша "Nocturno" Нядоля адкрывае вочы на глабальныя заканамернасці нашай рэчаіскасці: на бессмяротнасць жыцця, на непазбежнасць абнаўлення яго формаў, на вечны нястрымны рух у прыродзе і грамадстве. Хоць лес восенню і замірае, але вясною ён заўсёды адраджаецца. Так і пакуты людзей падрыхтоўваюць непазбежныя перамены і абнаўленне жыцця грамадства.

Пры чытанні некаторых твораў Алеся Гаруна складваецца ўражанне, быццам аўтар нікуды ад роднай зямлі не аддаляўся і па гарачых слядах апісваў нейкія здарэнні, як, напрыклад, у вершы "Спрэчка" — сумна-гумарыстычным апавяданні пра бойку ў карчме, у час якой удзельнікі кулакамі даказвалі перавагі і вартасці сваёй веры. І пытанне: "Ці ж не сорам гэтак, братцы?", з якім стары разумны селянін звярнуўся да ўдзельнікаў бойкі, адрасуецца ўсім тым, хто хацеў бы распальваць на нашай зямлі рэлігійныя канфлікты.

Асноўны выток Алеся Гаруна — "па краю родным сум". Аднак гэты сум ва ўсёй яго творчасці не расслабляе лірычнага героя, не ператварае яго ў бездапаможную ахвяру ўсемагутнага лёсу. Наадварот, ён гартуе волю, небывала абвастрае пачуцці, прымушае пратэставаць, напружваць сілы для змагання са злом.

Творы пісьменніка даюць нам нечакана новае ўяўленне пра пакуты і трывогі яго пакалення, ідэалы і заблуджэнні таго часу. Чытаючы Алеся Гаруна, не раз і не два мы будзем захапляцца ягонай дальнабачнасцю, непахіснай верай у перамогу праўды і ўсведамленнем таго, якім цяжкім і пакутлівым будзе шлях да ўсеагульнай справядлівасці:

**... І покуль сонца ўзыйдзе,**
**Дык вочы выесць нам салёная раса,**
**І покуль першы дзень**
**людскога шчасця прыйдзе,**
**Мільёны сэрц праткне**
**гароты злой каса.**

*("Паэту").*

Галоўным героем твораў Алеся Гаруна з"яўляецца праўда — не падсалоджаная, не падфарбаваная, а толькі тая, якая многім вочы коле і якая адна можа рваць "духа путы".

У вершах паэта заглыбленыя філасофскія разважанні аб тайнах вечнага кругазвароту прыроды і заканамернасцях развіцця чалавечага грамадства чаргуюцца з трывожным, часта пакутлівым роздумам над нягодамі людзей або іх пакорлівасцю ("Жыві ж спакойна, вол, хадзі ў сваім ярме... Сляпому добра ў цьме... А ты— жывёлаў цар? Ці ж ты жывеш іначай?!). То зноў інтанацыі жальбы і смутку змяняюцца іскрыстым гумарам, вясёлым настроем гучнай і скочнай мелодыі "Мяцеліцы" ("Ой, спалеце, перуны, майго Янку, бо дурны! Назаляе толькі мне, а каб сватацца, дык не!").

Асабліва каштоўнымі ў спадчыне Алеся Гаруна нам уяўляюцца творы, прысвечаныя тэме роднага краю, матчынай мовы, лёсу народа і ў даваенны час — калі права карыстацца родным словам трэба было заваёўваць незвычайнымі намаганнямі, — і ў трагічныя гады ваенных ліхалеццяў, чужаземных нашэсцяў.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**(Заканчэнне будзе).**





**Першы фестываль дзіцячых самадзейных калектываў праходзіць у Мінску. Больш трыццаці драматычных і лялечных гурткоў са школьных студый, Дамоў піянераў, Палацаў культуры прынялі ў ім удзел. Пачалося свята з шэсця калоны дзяцей у тэатральных касцюмах, масках, з лялькамі ў руках. А потым юныя артысты выступілі на сцэне Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода. У час школьных канікулаў юныя артысты давалі спектаклі ў дзіцячых аддзяленнях бальніц, у школах, Палацах культуры.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час адкрыцця фестывалю; выступаюць удзельнікі народнага цырка Палаца культуры чыгуначнікаў; на сцэне — дзяўчынкі Цэнтра пазакласнай работы Кастрычніцкага раёна Мінска.**

**Фота М.МІНКОВІЧА.**

*НОВАЕ Ў ЛІТАР ТУРЫ*

# ПАПЫТАЙЦЕ "ПЕРШАЦВЕТЫ"...

У КІЁСКАХ Мінска з'явіліся "Першацветы" — часопіс маладых літаратараў, першы нумар якога выйшаў у 1992 годзе, а наступны — у 1993. Немагчыма расказаць аб усіх надрукаваных у часопісе творах, таму слушна выбраць найбольш выдатныя, кіруючыся ўласнымі суб'ектыўнымі меркаваннямі (бо ў крытыка няма іншага шляху, чым кіравацца ўласным густам).

Два вышэйназваныя нумары "Першацвету" змяшчаюць даволі цікавыя рэчы невядомых дагэтуль аўтараў. Пачнём з першага. У ім звяртаюць на сябе ўвагу апавяданні Уладзіміра Шніпа-Лемяшонка "Надзея на выратаванне" і "Начны сеанс". (Апошняе апавяданне — прыклад мадэрнізму ў беларускай літаратуры, наогул рэдкай у нас з'явы).

"Надзея на выратаванне" прыцягвае да сябе простай, незасмечанай мовай, што дазволіла аўтару падкрэсліць, высветліць сюжэт: апавяданне пакідае пачуццё дакладнасці, праўды няхітрай гісторыі пра бедалагу-хлопца, які ўпарта меўся пазбегнуць службы ў арміі. Вельмі рэдка здараецца так, каб гэткімі сціплымі сродкамі, як у У. Шніпа-Лемяшонка, быў дасканала перададзены трагізм чалавечага лёсу. Як у класічным рэпартажы: што бачыў, тое запісаў. Можа прывабнасць апавядання менавіта ва ўдалым спалучэнні жыццёвай праўды і аўтарскага спосабу запісу? Яшчэ адна адметнасць гэтага апавядання — кальцавая форма, але рука не падымецца назваць гэта эксперыментам, настолькі натуральна ён увасоблены. Дзея пачынаецца і заканчваецца ў невялічкім кафэ, і час, як выява змяі, што кусае свой хвост, замыкаецца ў ланцуг, пакідаючы надзею. Знаёмства з дзівакаватым юнаком, які грае на гітары, займае старонкі дзве, але захапляе нейкай недарэчнасцю юнацкага жыцця, балючым натуралізмам асобных эпізодаў, і вось ужо намі адчуваецца тое няўлоўнае ўздзеянне, якое здавён называюць "праўдай мастацтва".

"Начны сеанс" яшчэ меншы па памеру, аднак больш складаны. Тут ужо адчуваецца фармальны эксперымент з тэкстам, уласцівы часам мадэрнізму. Тут рэальнасць шчыльна пераплецена са сном, з начным кашмарам ці трызненнем.

Сны як працяг ці то папярэджанне таго, што мае адбыцца: нехта Валодзя купіў сваёй знаёмай Зіначцы білет у кіно, і вакол іх сустрэчы завязваецца канфлікт твора. Сны як магчымая будучыня, сны-асацыяцыі, іх уплыў на жыццё — чым не тэма даследу? Звычайны ўнутраны свет звычайнага абывацеля, ход яго думак, уздзеянне падсвядомых матываў на паводзіны чалавека — даволі рэдкая і цікавая ў нашай літаратуры тэма, за якую спраўна ўзяўся У. Шніп-Лемяшонак.

Наступная рэч, вартая, каб пра яе сказалі, — "Пустэльня адзіноты" Алеся Давыдава. Апавяданне адлюстроўвае душэўны настрой аўтара: перадае нам яго самоту і нейкім чынам адлюстроўвае наш час, балючасць нашага існавання. Гэта твор філасофскі. Індывідуальнасць аўтара нараджае своеасаблівую мову, даволі складаную, рэдкую мову пісьменніка-інтэлектуала. Яна нібы ўтварае аўру суму вакол старадаўняй казкі пра пошук ідэалу. Наша жыццё часам — немагчымая рэч, і метафары "жудасная бездань", "каламуць", "пустэльня адзіноты" характарызуюць тую прастору, дзе жыве мастак. Жыццё не шкадуе яго, і толькі мроя дае магчымасць сустрэчы. Аднак немае захапленне мроямі мусіць калі-небудзь скончыцца, і мастак зноў захлынаецца адзінотай. Трагізм няўлоўнай, не знойдзенай у жыцці вышэйшай прыгажосці, безнадзейнасць пошукаў дае напружанае пачуццё безвыходнасці, якое мусіць шукаць выйсце ў творчасці. Гэтым і рухаецца мастацтва.

З празаічных твораў "Першацвета-92" можна адзначыць таксама апавяданне Алеся Пашкевіча "Помста" — за вастрыню сюжэта, за яркасць вобразаў і зварот да гістарычнай тэмы, нарэшце, за тое, што яно напісана на "дарэформеннай" мове.

Наступны аўтар, каторага трэба прадставіць упершыню, — гэта Анатоль Брусевіч. "Першацвет-92" змяшчае нізку яго вершаў, якія маюць глыбіню і мілагучнасць. Малады чалавек выказвае нечаканыя для дэбютанта думкі.

**Паэтаў пачынаючых няма,**
**Як зорак пачынаючых ці неба.**
**Казаць вось так ня варта і**
**ня трэба.**
**Паэтаў пачынаючых няма...**

*("Трыялет").*

Гэта сказана пра тое, што талент прыходзіць на зямлю ўжо сфармаваным: ні дадаць, ні ўзяць ад яго немагчыма. Дарэчы, і ў вершах Анатоля, ад першага да апошняга, існуе музыка сказаў, калі рытм, гучанне і сэнс аб'ядноўваюцца ў гармонію. Такія вершы лёгка кладуцца на музыку. Аднак у іх шмат чаго ад філасофскага роздуму над жыццём — можа, ён і нарадзіў наступныя радкі:

**Я — нішто, прыстанак для**
**душы,**
**Нібы дом, які калісь пакінуць.**
**Думкі нараджаюцца і гінуць.**
**Я — нішто, прыстанак для**
**душы...**

У яго паэзіі — свой шарм, свая загадкавасць, свая мера чысціні і прыгажосці. Незасмечаныя, прыўзнятыя ў настроі вершы. І калі талент не ў колькасці, а ў якасці, то хай паэт не збочыць з прызначанага яму шляху.

"Першацвет-92" адвёў некалькі старонак пад аддзел крытыкі, у самым пачатку якога Сяржук Мінскевіч мужна выказаў ідэю: "Добрая крытыка павінна карыстацца толькі адной аксіёмай: аксіём у крытыцы не бывае" і тут жа прывёў сваю схему ўздзеяння крытыкі на развіццё літаратуры. Трэба спадзявацца, што новы аддзел узбудзіць затухаючы імпэт нашай літаратурнай крытыкі, і яна нарэшце зоймецца комплексным аналізам літаратуры, якая рухаецца немаведама куды. Той, хто рэгулярна чытае найноўшую беларускую прозу, можа заўважыць, як паволі змяняецца тэматыка, ракурс адлюстравання нашага сучаснага жыцця ў аповесцях і апавяданнях. Як мы ад бытавога прымітывізму адыходзім у гушчар даследаванняў, суб'ектывізму, вось ужо разглядаем падсвядомае, сны, плынь свядомасці. Мы бачым нагнятанне напружанасці і трагізму ў напаўфантастычных апавяданнях — яны немагчыма жорсткія, каб быць "рэалізмам" ("Завейны шлях" А. Ветаха, "Геній смерці" В. Чаропкі). Нездарма літаратуру завуць барометрам грамадства: тут збіраюцца, даследуюцца і выяўляюцца нашыя памылкі, духоўныя хваробы, наша цяжкая прага ідэалу. У рэшце рэшт наша літаратура паказвае нам бязладдзе, такія выявы мы і назіраем у "Першацвеце-92".

"Першацвет-93" (N 1) не такі багаты на знаходкі. Аднак і там ёсць новыя, абяцаючыя імёны. Класічны ўзор жаночай паэзіі прадставіла Лана Медзіч:

**Спяваю пра нішто, як гавару**
**без логікі і без дакладных**
**сказаў.**
**Магчыма, абарву ўсё гэта**
**разам,**
**калі сама ў с... ерагару.**

**Жаночых думак сумны**
**трыялет,**
**парыўны шэпт сумбурных**
**маналогаў,**
**і гэта —- я з п... ай тэт-а-тэт,**
**калі сарвуся — ... судзіце**
**строга...**

Гэта паэзія пачуцця, паэзія асацыяцый, нечаканага спалучэння далёкіх паняццяў. Жаночая паэзія нібы смуга на балоце, больш хавае, чым даносіць да нас сэнс, пакідаючы шчымлівае адчуванне настрою верша, нібы гук камертона павольна сціхае ў паветры.

"Першацвет-93" змяшчае на сваіх старонках новыя вершы Віктара Шніпа. Ён з тых паэтаў, чые творы пакідаюць яркае ўражанне цэльнасці і моцы. Аднак гэтым разам у паэзіі В. Шніпа гучаць новыя матывы. З паэтам адбываецца нешта накшталт духоўнага крызісу, калі чалавек стаіць на мяжы адмаўлення сябе самога:

**Жыццё бязглуздае даволі,**
**Няма ні радасці, ні волі.**
**Адны з трыбунаў абяцанні,**
**Што хутка лепей жыць нам**
**стане.**
**Ды ўжо амаль ніхто не верыць,**
**Што ўсё ж сама адыдзе**
**шэрасць.**
**І ты ідзеш па чорным свеце,**
**Смяццё ў цябе шпурляе**
**вецер...**

Няўжо гэта адмаўленне разумнасці ўсяго свету, цалкам?

На жаль, у гэтым артыкуле нельга дэталёва прааналізаваць творчасць аднаго асобнага пісьменніка, паспяваючы толькі адзначыць адметнасці часопіса. Да іх можна аднесці рэцэнзію Дзмітрыя Санюка "Сілы смерці і нябыту" з падзагалоўкам "Тэма прарока ў драме Я. Купалы "Раскіданае гняздо". Нечаканы падыход да вобразаў Незнаёмага і Старца, праблемы лжы і праўды, святла і цемры надаюць своеасаблівае гучанне рэцэнзіі, што вылучае яе з шэрагу іншых.

Выданне "Першацвета", часопіса маладых літаратараў, — гэта добрая магчымасць для пачынаючых творцаў паказаць, на што яны здатныя, і варта спадзявацца, што ім будзе аб чым сказаць.

**Наталля ЖУК.**

**ПРЫСВЯЧАЮЦЬ 75-ГОДДЗЮ БНР**

# БЕЛАРУСКІЯ МАСТКІ Ў ГОРАДЗЕ НА НЯВЕ

2 сакавіка ў Санкт-Пецярбургу ў мастацкім салоне "Неўскі-20" (гэта адначасова і адрас салона) адкрылася персанальная выстава сяброў Таварыства вольных мастакоў, створанага пры бібліятэцы імя Блока, якая здае ў арэнду памяшканне для таварыства. Двое з удзельнікаў выставы — беларусы: Віктар Сівуха і Юры Казак. Яны ўжо вядомы аматарам жывапісу па мінулагодніх выставах у Доме мастацтваў у Мінску.

Юры Казак паказаў свае жывапісныя палотны, напісаныя апошнім часам. Куточкі Піцера, добра вядомыя Юру, а таксама краявіды родных мясцін (сам ён з Рэчыцы) пададзены ў даволі экспрэсіўнай, хаця і не заўсёды глыбокай трактоўцы. Але ягоным работам не адмовіш у шчырасці пачуцця.

Другі рэчыцкі мастак Віктар Сівуха (нарадзіўся ў в. Роўнае Рэчыцкага раёна) выставіў 10 сваіх работ, усе — калажы з тканіны. У гэтым нібыта простым для выканання жанры В. Сівуха дасягнуў сапраўднага майстэрства. Ён не спыніўся на тым, што без перабольшвання можна ўжо лічыць класікай у жанры калажа (маюцца на ўвазе мінулагоднія творы, бачаныя мінчукамі, — "Спакушэнне" і іншыя), а пайшоў далей, пранікаючы ў глыб з'явы і дабіраючыся пры гэтым да яе каранёў. Такія яго новыя работы, як "Ноч" альбо "Праклён" (варыяцыя на тэму "Сталкера") — не толькі чарговае дасягненне мастака, але і сведчанне таго факта, што беларускае мастацтва набывае ў асобе Віктара Сівухі сталага і вельмі добрага майстра.

Згодна статуту таварыства мастакі не маюць права праводзіць тыя ці іншыя палітычныя акцыі, аднак застацца ў баку ад падзей, якія хвалююць Бацькаўшчыну і замежжа, яны, зразумела, не могуць. Юры Казак і Віктар Сівуха вырашылі прысвяціць паказ сваіх твораў 75-й гадавіне абвяшчэння БНР.

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**
Санкт-Пецярбург.

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ **крынічка** СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЯК ЛОСЬ З ЛІСОЙ НАГАМІ МЯНЯЎСЯ

**(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

Сустрэліся аднаго разу ў лесе лось і ліса.

— Што новага? — пытае ліса.

— Ды нічога добрага, — кажа лось. — Учора за мною гнаўся паляўнічы, а я сваімі доўгімі нагамі ўсё за карчы чапляўся. Ледзь уцёк. Бяда мне з такімі нагамі цыбатымі.

— Ды і мне са сваімі кароткімі не соладка. То ў траве заблытаюся, то кіпцюрамі за папараць зачаплюся. Давай мы з табою, лось, нагамі памяняемся.

— Давай! — узрадаваўся лось.

Так яны і зрабілі.

Назаўтра ліса пабегла ў вёску, каб пеўніка сабе на вячэру ўкрасці. Але дзе там! Хіба можна на цыбатых ласіных нагах пад дзверы ў куратнік падлезці?!

Так і падыбала ліса назад у лес галодная.

Ажно бачыць: лось на яе кароткіх лапах няўклюдна падскоквае, хоча маладую галінку асіны дастаць. Толькі не ўдаецца небараку падсілкавацца.

— Нашто я нагамі мяняўся? — бядуе лось. — Прападу цяпер з голаду.

Пачула гэта ліса, узрадавалася, пачала прасіць ласа зноў нагамі мяняцца.

З таго часу і засталіся ў лася дужыя ногі з моцнымі капытамі, а ў лісы — кароткія быстрыя лапы з вострымі кіпцюрамі.

**Апрацоўка Хрысціны ЛЯЛЬКО.**

Памочніца. Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.



Ну, паехалі! Фота В. ЖУШМЫ.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

### НА МОВЕ РОДНАЙ

Не проста ў словы я гуляю —
На мове роднай размаўляю.

У час світальны, вечаровы
Кажу пяшчоты цёплай словы:
— Дзень добры, сонейка над
гаем!
Сваці ярчэй над родным
краем,
Гукай вясну з зямной далечы...
Вітанне шлю,
марозны вечар!
Ты запалі ў нябёсах зоркі,
Няхай збяруцца на вячоркі,
Чаруюць нас красой
нязводнай...
Я гавару
На мове роднай.

**Аўяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ**

### ЛЕДАХОД

Ад удару
Шчупака
Скалыхнулася
Рака,
Затрашчаў
Зімовы лёд,
І пачаўся
Ледаход.
Крыга з крыгаю
Скрыгоча,
Хваля з хваляю
Булькоча,
Разлілася ўшыр
Рака
Ад удару
Шчупака.

### СОНЕЧНЫЯ ЗАЙЧЫКІ

— Сонечныя зайчыкі,
Дзе схавалі
Пальчыкі,
Дзе схавалі
Роцікі,
Вусікі,
Жывоцікі!
Круглыя,
Як мячыкі,
Сонечныя зайчыкі,
Як відаць,
Не чуюць,
Бегаюць, танцуюць.

**Марына ДУБЧАНКА**

### СКАРЫНА

У тыя даўнія часы,
Калі ў Літоўскім княстве шчэ
была Айчына,
У Полацку народжаны быў сын
У дзень зацьмення, сын
Францыск Скарын
Ён добры быў і кемлівы
хлапчук,
Да ведаў вельмі ён цягнуўся.
Таму прайшоў нямала пешшу ён,
пакуль,
Урэшце, ў Кракаве не апынуўс
Але ён не забыў сваю зямлю
І памятаў аб мове, аб народз
І вось на роднай мове
ўпершыню
Яго ў Празе кніжачка выходзіць.
Прайшлі вякі, змянілася жыццё,
Усё ўжо іншым тут, вядома, стала.
Але не дай, Радзіма, трапіць ў
забыццё
Таму, хто для цябе зрабіў нямала.

**Андрэй ПРУЗАН**

* * *

Разбудзіў траву з вятрыскам
Дожджык.
І пабег ён, і пайшоў
У падарожжа.
Па кустах, па дрэвах
Ён разліўся,
Па лістках скакаў, як мячык,
Весяліўся.
Нешта ціхенька шапнуў на лузе
Кветкам
Ды і знік, як і з'явіўся,
Непрыкметна.

**Анатоль МАЛЮК**

### ПАЛІЧЫЦЕ ТАПОЛІ

Раслі ў полі
Тры таполі,
А за рэчкай —
На сем болей.
І за рэчкаю,
І ў полі
Палічыце ўсе таполі.

**Ілья ШАХРАЙ**

## ЧАРОЎНАЯ ПАДУШАЧКА

Даўным-даўно ў адной вёсцы на высозных таполях жылі буслы. І людзі заўсёды радаваліся, гледзячы на іх, дапамагалі будаваць гнёзды — усцягвалі на таполі колы ад калёс.

Неяк навалілася на вёску бяда. Дзеці плачуць, у ложках круцяцца, ніяк заснуць не могуць. Тут дарослыя і здаўмеліся: набілі падушачкі мяккім гусіным пухам. Прылеглі дзеці, але зноў не спіцца ім, валтузяцца, капрызяць, як хворыя. І ні лекі, ні калыханкі не дапамагаюць. Зусім бацькі разгубіліся, не ведаюць, што рабіць.

Дазналіся пра бяду буслы. Выцягнулі яны са сваіх крылаў па пёрку і аддалі людзям. А пер'е ж у іх незвычайнае. Гэта пер'е птушак-вандроўнікаў, якія шмат дзівоснага нагледзеліся, шмат выпрабаванняў вытрымалі ў час пералётаў. Уклала кожная маці чароўнае буслінае пёрка ў дзіцячую падушачку. І адбыўся цуд: як толькі дзіця датулялася да яе шчакою, дык адразу ж засынала. І пачынала ў сне лятаць, нібыта птушка, над цудоўнымі мясцінамі, якіх ніколі раней не бачыла.

З таго выпадку і навучыліся людзі лятаць у сне, а потым і наяве. Кажуць, наш славуты касманаўт якраз родам з вёскі, аблюбаванай буслямі.

А ў вас ёсць чароўная падушачка?

## *ЗАГАДКІ*

Жыве пад страхою,
Мошак глытае,
Рогі мае
І задам лятае.

(Ластаўка)

На яго дзьмухнеш, бывае, —
Парашуцікі пускае.
А сарвеш — не апячэ,
Малако з яго цячэ.

(Дзьмухавец)

На полі стаіць,
На поле глядзіць,
Не можа крычаць, смяяцца,
А птушкі яго баяцца.

(Пудзіла)

Ляціць ракета,
Дыму не мае.
На руку сядзе —
Балюча кусае.

(Аса)

**Анатоль ЗЭКАЎ**

### РЫБАЦКІЯ СКОРАГАВОРКІ

* * *

Страшны сон
Прысніўся Сому:
Быццам Сом —
Ужо не Сом.
Сом стаў сумны,
Невясёлы,
Сому й сон —
Ужо не сон.

* * *

Плаваў Акунь
Вакол Акул
Ажно датуль,
Пакуль
Акула
Акуня
Не праглынула.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 492.
Падпісана да друку 29.03.1993.